


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

17 мая 2002 года
№ 20 (369)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Музей без электрычнасці

**ВАЛОЖЫН**. Музей Ф. Дзяржынскага, што ў Івянцы, застаўся без электрычнасці. Энергію адключылі за нявыплату. Запазычанасць музея складае 306 тысяч рублёў. Цэнтр рамёстваў, які існуе пры музеі, не працуе. Дырэктар музея **Алег Раманоўскі** гаворыць, што за электраэнергію не разлічваюцца з-за таго, што ў раённым бюджэце няма на гэта грошай. На яго думку, такая сітуацыя можа працягвацца 5-6 месяцаў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Заўтра адкрыюць вятрак

**МЯДЗЕЛ**. 18 мая ў вёсцы Дружная ўрачыста адкрыюць ветраэнергетычную ўстаноўку. Вятрак пабудавалі летась, запусцілі ў эксплуатацыю ў студзені гэтага года. З таго часу ён выпрацаваў больш за 400 тысяч кілават-гадзін "чыстай" электраэнергіі. Ветраэлектрастанцыя пабудаваная нямецкай дабрачыннай арганізацыяй "Дамы замест Чарнобыля" і міжнародным дабрачынным грамадскім аб'яднаннем "ЭкаДом". Гэта ўжо другі вятрак на Мядзельшчыне. Першы пабудаваны ля вёскі Дружная ў 2000 годзе.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### І зацвітуць сады праз чатыры гады

**АСТРАВЕЦ**. На даволі выгадных умовах у гэтым годзе калгасы, прадпрыемствы могуць набыць саджанцы яблыняў, груш, вішань і іншых культур у сялянскай гаспадарцы "Світанак". Яе ўладальнік **Часлаў Лабачэўскі** прадае іх з адтэрміноўкай у разліках на чатыры гады. Такую магчымасць ўжо скарысталі на Сольскім заводзе для сушкі гародніны і ў Ашмянскім вучылішчы сельскай гаспадаркі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### На аўтаматызаваны прыём

**МЯДЗЕЛ**. На гарадскім вузле электрасувязі перайшлі на аўтаматызаваны прыём аплаты за паслугі. Гэта значыць, інфармацыя з Мінска прымаецца на камп'ютэр у электронным выглядзе (а не расшыфроўкамі на паперы). Менш працы стала аператарам, і плаціць за паслугі можна на некалькі дзён раней. А тым, хто жадае мець расшыфроўкі перагавораў, выдаюцца яны ўжо за дадатковую плату. Аўтаматызаваны прыём аплаты збіраюцца зрабіць і ў Купе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Падаліся ў прадпрымальнікі

**СМАРГОНЬ**. З пачатку года ў раёне зарэгістравана 10 прадпрымальнікаў-таксістаў. За ўвесь мінулы год такіх было 7. Галоўны спецыяліст упраўлення эканомікі райвыканкома **Вольга Сафонава** гаворыць, што людзі ідуць у прадпрымальнікі з-за таго, што ім няма дзе працаваць. Даводзіцца разлічваць толькі на сябе. Усяго ў раёне цяпер працуюць 42 таксісты.

**Ірына РАБУШКА.**

### Адкрываюць купальны сезон

**МЯДЗЕЛ**. Па дадзеных азёрнай станцыі «Нарач», тэмпература вады ў буйнейшым у краіне возеры ў сераду ранкам была 17С°. А да вечара вада ў Нарачы праграваецца да 19 градусаў. Гэта на 4 градусы цяплей, чым летась. Нездарма некаторыя адпачываючыя адкрываюць купальны сезон.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Трагедыя ў Падольцах

**АСТРАВЕЦ**. Трагедыя ў вёсцы Падольцы адбылася сярод белага дня. 62-гадовы вясковец завітаў да 64-гадовай суседкі. Пасля таго, як яны выпілі гарэлкі, абодва заснулі. Мужчына з цыгарэтай. З агню выратавалі мужчыну, але жанчыну – не ўдалося.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 18 мая

**Мінск**
5°С (уначы)
15°С (удзень)



**Вільня**
3°С (уначы)
15°С (удзень)



Нядзеля, 19 мая

**Мінск**
5°С (уначы)
20°С (удзень)



**Вільня**
3°С (уначы)
20°С (удзень)



# Віляйчанін загінуў у Каспійску

**13 мая на новых вілейскіх могілках пад вёсачкай Снежкава пахавалі Сяргея Бохана. Ураджэнца Вілейкі. Старшага прапаршчыка, тэхніка 77-й асобнай гвардзейскай брыгады марской пехоты Каспійскай флатыліі Расіі. Ён быў адным з тых 42-х, хто ў выніку тэрарыстычнага акту загінуў у Каспійску непадалёк ад Махачкалы.**



Фота 1985 года.

**Бохан Сяргей Антонавіч.**
**Нарадзіўся 3 студзеня 1970 года ў Вілейцы. Вучыўся ў сярэдняй школе №1. Пасля 8 класаў паступіў у тэхнікум. Тэрміновую вайсковую службу прайшоў у Германіі. У 1993 – 1994 гадах служыў па кантракце у вайсковай часці ў Вілейцы. Быў пераведзены ў Мурманск, дзе скончыў школу мічманаў. Апошні час займаў пасаду тэхніка у 77-й асобнай брыгадзе Каспійскай флатыліі. Загінуў 9 мая 2002 года. Засталася жонка Святлана, васьмігадовы сын Максім.**

### Ён часта званіў дадому

Сяргей не хацеў, каб блізкія хваляваліся з-за таго, што служыць ён у неспакойным месцы. На памяці яшчэ быў знішчаны выбухам дом у Каспійску, дзе загінула амаль сотня чалавек, сярод якіх большасць вайскоўцы і іхнія сем'і. Таму ён часта званіў дадому. Расказваў пра сямейныя справы. Цікавіўся, што чутно ў Вілейцы, дзе засталося шмат знаёмых і сяброў.

### Якім ён запомніўся

Камандзір вайскавой часці ў Вілейцы **Уладзімір Кузняцоў**, які служыць тут з 1968 года, на пытынне, ці добра той памятае Сяргея, адказвае, што вельмі добра. Нягледзечы на тое, што Сяргей праслужыў у часці нядоўга. Усяго толькі каля года, да скарачэння:

– Харошы хлопец, выдатны. Вельмі яго шкада.

Былы класны кіраўнік **Зінаіда Галавенка** таксама вучыла Сяргея ў СШ№1 не вельмі доўга, усяго год. Прыйшла ў восьмы клас. А ў дзевяты Сяргей, як і многія аднакласнікі, якія хацелі хутчэй стаць самастойнымі, не прыйшоў. Пайшоў вучыцца ў тэхнікум. Памятае настаўніца, які шчыры да працы ён быў. Вельмі стараўся працаваць на суботніках:

– Памятаю яго самастойным і харошым хлопцам.

Камандзір аддзялення вілейскай пажарна-выратавальнай часці **Сяргей Кажура** не толькі служыў разам з ім у вайсковай часці, але і так быў блізка знаёмы: Сяргей Бохан узяў сабе ў жонкі **Святлану Петрашэвіч**, аднакласніцу Сяргея Кажуры. Разам працавалі, разам праводзілі святы. Разам радаваліся нараджэнню першынца Сяргея і Святланы **Максіма**. У памяці Сяргея Кажуры яго цёзка застаўся надзейным таварышам:

– На яго заўсёды можна было разлічваць. І калі патрэбная была дапамога, то я заўсёды да яго звяртаўся: Сярога, дапамажы. Год таму прыкладна ён прыязджаў у адпачынак з Дагестана разам з сябрам, старшым лейтэнантам **Андрэем**. Сустрэў іх у горадзе у форме. Пагаварылі. Расказаў пра тое, як служыцца ў Дагестане, пра блок-пасты. Я тады падумаў, што споўнілася яго мара яшчэ са службы ў Вілейцы стаць кадравым марпехам (марскім пехацінцам – рэд.)

**Каспійск, заснаваны ў1932 годзе як рабочы пасёлак ля самай сталіцы Дагестана і да 1947 года, пакуль не стаў горадам, называўся Двигательстрой. Горад з 1947 года. Сёння ў Каспійску жыве каля 70 тысяч жыхароў. Меншы, чым Маладзечна, большы за Смаргонь. 14 кіламетраў да чыгуначнай станцыі Махачкала. Размешчаны на беразе Каспійскага мора, на Прыморскай нізіне, паблізу ад перадгор'яў Вялікага Каўказа. Заводы Дагдызель, дакладнай механікі, камнеапрацоўчы, цагельня, тэкстыльна-галантарэйная фабрыка, ЦЭЦ, зверагаспадарка. Насельніцтва markрознае па нацыянальнасцях. Даргінцы – 20%, лезгіны і рускія па 15%, аварцы і кумыкі – па 10–13%. Побач пралягае федэральная шаша "Каўказ", чыгунка, размешчаны міжнародны аэрапорт. Шмат сярэднетэхнічных навучальных устаноў, філіялаў ВНУ.**




# Тэракт, які ўскалыхнуў увесь свет



Каспійск. 9 мая 2002 года.

**Тэракт, які ўскалыхнуў увесь свет, быў здзейснены у 9.40 раніцы. У Вілейцы ў гэты час было 8.40 – ветэраны падыходзілі толькі да будынка райвыканкома, каб потым пайсці на Плошчу Свабоды на мітынг. На плошчу, дзе месціцца магазін "Журавінка", у якім працуе мама Сяргея.**

У 9.40 па маскоўскім часе калона вайскоўцаў 77-й брыгады марской пехоты праходзіла праз цэнтральную плошчу Каспійска, накіроўваючыся да могілак, каб ускласці вянкі да магілаў салдат, якія загінулі ў Вялікай Айчыннай вайне. Замыкалі шэсце група афіцэраў і ваенны аркестр, за якім прыстроіліся каспійскія хлапчукі. Калі раздаўся выбух, аркестр іграў "День Победы".

**– Адчуванне было такое, быццам хтосьці ўдарыў у спіну, – гаворыць дырыжор аркестра Садрудзін Асманаў.**

**– Я павярнуўся, а ўвесь аркестр ужо ляжыць. Медныя трубы, горны, прабіты барабан, а навокал музыканты і дзеці ў крыві.**

Афіцэры, мічманы, прапаршчыкі і дзеці, якія беглі ім услед, прынялі на сябе асноўны удар выбуховай хвалі. Выбуховае прыстасаванне было зробленае з асколачнай супрацьпехотнай міны накіраванага дзеяння МОН-50. Тэрарысты значна павялічылі магутнасць бомбы, прыматаўшы да яе некалькі трацілавых шашак.

30 чалавек загінулі на месцы, яшчэ 12 памерлі ў бальніцы. Ахвярамі сталі 20 байцоў і афіцэраў і 22 мірных жыхары, з якіх 17 падлеткаў. Яшчэ 125 чалавек атрымалі раненні рознай ступені цяжкасці.

**Па версіі ФСБ Расіі і Генпракуратуры, тэракт у Каспійску арганізаваў Рабані Халілаў – 30-гадовы ураджэнец Буйнакска.**

## Мінскія рыцары

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі адкрываецца выстаўка "Рыцары Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага".**

Яе прапануе Мінскі ваенна-гістарычны клуб "Княжацкі ГУФ".

Тут можна пабачыць 10 рыцараў у даспехах, ката з усімі атрыбутамі для катаванняў, зброю часоў ВКЛ, арбалет, меч, кінжалы, шчыты. Акрамя гэтага, на выстаўцы ёсць асобныя дэталі даспехаў, якія кожны можа прымераць і сфатаграфавацца.

Выстаўка працягнецца да 4 чэрвеня.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Свята піянераў

**ВІЛЕЙКА. 19 мая споўніцца 80 год, як стварыўся першы піянерскі гурток.**

З нагоды святаў у нядзелю на плошчы Леніна пройдзе сустрэча 26 піянерскіх школьных дружын з усяго раёна. Вучні паслухаюць выступленні ветэранаў грамадскага руху, запусцяць самаробныя ракеты, паглядзяць у кінатэатры дакументальны фільм. Потым паўдзельнічаюць у конкурсах: малюнак на асфальце "Я і мае сябры", патрыятычнай песні і насценных газет, пра школьнае жыццё. Пераможцы атрымаюць мяккія цацкі і кнігі.

Свята піянерскага сяброўства пачнецца а 10-й гадзіне.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



**Так выглядала набярэжная Мядзела год восемдзесят таму.** Фота з сайта www.shtetlinks.jewishgen.org/Myadel/.

# Амерыканская настаўніца зрабіла сайт пра Мядзел

**МЯДЗЕЛ. Мясцовыя інтэрнет-майстры пакуль не сабраліся зрабіць сайт пра Мядзел, але такі ўсё ж існуе. Гэта праект амерыканскай арганізацыі JewishGen Inc., якая займаецца вывучэннем генеалогіі яўрэяў. Іх сайт на англійскай мове размешчаны па адрасе www.shtetlinks.jewishgen.org/Myadel/.**

Яго распрацоўкай з дапамогай Мядзельскай суполкі ў Ізраіле займалася амерыканская настаўніца Нэнсі Холдэн, якая цяпер жыве ў Паўднёвай Каліфорніі. Сайт прысвечаны гісторыі яўрэйскай супольнасці ў Мядзеле. На ім багата звестак ад з'яўлення яўрэяў у нашай мясцовасці да крывавых падзей другой сусветнай вайны. Між іншым, да апошняй вайны ў Мядзеле жылі 72 яўрэйскія сям'і, былі дзве сінагогі, у цэнтры праходзіла Яўрэйская вуліца. Прыведзеная падрабязная інфармацыя, хто якой справай займаўся (былі краўцы, трымальнікі крамаў, аптэк, рэстарацыі, ветраных млыноў — усяго 31 від заняткаў). Намаляваная і карта, дзе хто жыў. Шмат ёсць успамінаў выхадцаў з Мядзела пра жыццё тут. Ёсць і гістарычныя дакументы, старыя фотаздымкі.

На сайце ёсць звесткі пра гісторыю і сённяшні дзень Мядзела (край названы рэгіёнам спакойных азёр), фотарэпартажы з надаўніх вандровак па раёне.

На галоўнай старонцы арганізацыі JewishGen Inc. даюцца ссылкі на падобныя сайты пра Кабыльнік, Крывічы, Смаргонь, Вілейку і іншыя гарады і мястэчкі рэгіёна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Чалавек мастацтва

**ВІЛЕЙКА. Наша знаёмства адбылося нечакана. Я зайшла ў Дом культуры, каб даведацца, што ў іх цікавага. І ўсе дзяўчаты адказалі: "Сяргей Шкурдзе".**



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ

**Сяргей Шкурдзе. Нарадзіўся 19 кастрычніка 1975 года ў Вілейцы. Скончыў СШ №1. У 1991 годзе паступіў у ПТВ-124 на токара. У 1994 годзе працаваў па спецыяльнасці на "Зеніце". У 1996 годзе паступіў у музычную школу на ўдарныя інструменты. Скончыў яе за год. Потым — музычнае вучылішча, але кінуў з-за праблем з выкладчыкам. З 1998 года грае ў духавым аркестры Фёдара Гура.**

**Афіцыйна працуе акампаніятарам у Доме культуры. Спявае і грае на барабанах у групе "Парламент" і "Дзеянне" з Баранавіч. Жыве з маці і братам у вёсцы Шылавічы.**

Сяргей — лаўрэат першага рэспубліканскага конкурсу "Галасы Радзімы" і рэгіянальнага конкурсу "Адна зямля".

Сяргей пры сустрэчы запытаўся:

— І хочацца вам пра творчых людзей пісаць?

**— А вы лічыце сябе творчым?**

— Я адчуваю сябе чалавекам мастацтва, таму што спяваў з дзяцінства. Потым пайшоў вучыцца на токара, але мне было сумна. Зацікавіўся барабанамі і ў 21 год прыйшоў у музычную школу. Смешна было, але скончыў за год.

Сяргей лічыць, што творчыя людзі вылучаюцца сваімі натуральнымі паводзінамі. Ім не трэба прыгягваць увагу экстравагантным выглядам.

Не імкнецца ён і да вядомасці, таму што гэта — не мэта жыцця. Як казаў, проста займаецца любімай справай, а калі яшчэ і іншым падабаецца — супер! Так і групу "Парламент", якой ужо пяць год, з хлопцамі стварылі.

— "Парламент" — не камерцыйная група. Цяпер шукаем спонсараў, каб выпусціць альбом з 10 песнямі. У будучым зробім копіі касет і раздадзім людзям розных узростаў. Вызначымся, на каго арыентавацца. Будзе нешта накшталт сацыялагічнага апытання.

Песні "Парламента" слухаюць людзі ад 25 год. Але Сяргей падкрэсліў, што ў іх няма стылю ў музыцы, таму што стыль ставіць абмежаванні.

— Музыка павінна выклікаць розныя пачуцці: радасць, смутак, захапленне. Таму вельмі хачу заняцца электроннай музыкай. Яна бязмежная. Калі злучым з электроншчыкам **Ванем Капцюгом** жывы і электронны гук, будзе сапраўдны феерверк.

Але Сяргей Шкурдзе цікавіцца не толькі музыкай. Ён іграе і на вяселлях. Памятае самае першае. Тады яму было 16 год.

— Гулялі маладыя тры дні, ды яшчэ і ў двух вёсках: Доўгая і Папоўцы. Танцы, маршы, песні — жах! Ноччу спалі ў клубе без замка. Баяліся, што апаратуру выкрадуць. Але ж добра заплацілі. Маці нават казала: "О-о-о, трэба на вяселлі ездзіць", — смяецца Сяргей.

Музыкант вельмі любіць сваю маці і лічыць яе супержанчынай. **Зінаіда Шкурдзе** заўсёды дапамагае сыну і ацэньвае яго творчасць. Сям'я для яго — гэта, перш за ўсё, сяброўства паміж усімі. Таму мой жарт наконт зняцця пярсцёнка перад дзвярыма заручальнага пярсцёнка ўспрыняў сур'ёзна.

— Навошта жаніцца, калі будзе падман. Ніколі не здыму пярсцёнка. Трэба сапраўдную жонку шукаць, — разважыў ён.

Напрыканцы гутарылі пра мары. Ён — рэаліст, таму і жаданні рэальныя.

— Спяваць не хачу. Буду на барабанах граць, а сёлета займаюся гэтым па 5-6 гадзін у дзень. І яшчэ ніколі не трэба надзяваць маскі. Усё адно іх давядзецца зняць.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ТЭАТР

# Актрыса Эмілія Ларыёнава: «Маленькіх роляў не бывае»



Архіў «РГ»

**Актрыса Мінскага абласнога драматычнага тэатра Эмілія Ларыёнава.**

**МАЛАДЗЕЧНА. Актрыса Мінскага абласнога драматычнага тэатра Эмілія Ларыёнава працуе ў тэатры з дня яго заснавання.**

Дзяцінства пакінула свой адбітак — вырас непаўторны рамантык. Кніга пра творчасць Ярмолавай "Аповесць пра вялікую актрысу", якую Эмілія прачытала ў трэцім класе, а таксама фотакартка дзеда ў тэатральным касцюме таксама зрабілі сваю справу. Калі дзяўчынка вучылася ў шостым класе, аб'явілі набор у тэатральны гурток. Так Эмілія апынулася ў сваёй першай тэатральнай трупе. Першая ў жыцці роля — Дзяўчынка, што лавіла матылькоў, з п'есы "Незвычайная сустрэча". Далей была Жабрачка-Маці ў п'есе "Зорны хлопчык", з якой ездзілі на гастролі. Пасля некалькіх спроб прабіцца ў Маскву паступіла ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Да адкрыцця прафесійнага тэатра Э. Ларыёнава іграла ў народным тэатры.

У якасці прафесійнай актрысы яна імкнецца рэалізаваць свой жыццёвы і творчы досвед. Калі пагледзець на герань актрысы — Катарыны ў спектаклі "Без мяне мяне ажанілі" і Глафіры Фірсаўны ў "Апошняй ахвяры", то ўбачым, што ў гэтых дзвюх ролях Эмілія Ларыёнава розная як па характары, так і спосабе існавання на сцэне.

На адной з сустрэч з юнымі гледачамі Эмілія Аляксееўна сказала, што маленькіх роляў не бывае, бываюць "малыя" акцёры. Каб стварыць яркі вобраз, трэба добра ведаць эпоху, гісторыю, умовы жыцця, ў якіх жыве герой. Хаця ніводную са сваіх роляў Э. Ларыёнава не вылучыла, як больш ці менш запамінальную. Гаворыць, што з цікавасцю сыграла б ролю Лізаветы ці Марыі Сцюарт.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

# У фіта-бар Алы Стасюлевіч як на выстаўку

**ВАЛОЖЫН. На пытанне, дзе знайсці Алу Стасюлевіч, у раённай паліклініцы адкажа кожны.**

— Ідзіце на другі паверх. Яна павінна быць у фіта-бары або ў сваёй майстэрні, што ў фізіякабінеце. Абавязкова пакаштуйце яе духмяныя чаі, — прапанавала мне практыкантка.

Пошук шмат часу не заняў, таму што драўляныя дзверы з прыгожай разной шыльдай "Фіта-бар" моцна адрозніваліся ад "стандартных". Але самае цікавае я ўбачыла, калі зайшла.

Салодкі і насычаны пах розных траў, цікавыя вырабы з дрэва, карціны і акварэлі без вады з падсвятленнем прымусілі мяне засумнявацца: ці не ў музеі я? Але за стойкай стаялі дзве жанчыны, якія развеялі мае сумненні.

Расказвае галоўная медсястра **Зінаіда Бубіч**:

— Ідэя стварэння гэтага бара належыць намесніку галоўнага ўрача **Леаніду Антоненку**. А інтэр'ер і дызайн — справа рук Алы, якую я па старым сяброўстве запрасіла сюды. Мы з ёй даўно знаёмыя, і заўсёды яна выдумляла нешта прыгожае. Бачыла тое, чаго іншыя не бачаць. Мы называем Алу мастаком-самавучкай. Нягледзячы ні на якія турботы, паездкі за травамі і смешнымі дзеравяшкамі ніколі не адкладзе.

Сама Ала Стасюлевіч здзіўлялася, навошта пра яе пісаць, і хадзіла туды-сюды, каб не ўдзельнічаць у размове.

У кароткіх "сустрэчах" я даведалася, што малюе яна з дзяцінства. Асабліва падабаецца пісаць алейнымі фарбамі. Усе сюжэты — пра лясы і іх жыхароў.

— Не ведаю, як вобразы прыходзяць, але малюю хутка. Вось гэтую карціну (паказвае на палотно памерам прыкладна 70х130 сантыметраў) зрабіла за чатыры абедзенныя перапынкі.

Акрамя карцін, робіць "мастак-самавучка" і неардынарныя падзелкі з дрэва. Матэрыял — любы корч або пень. Але галоўны яе скарб — гэта сшытак з назвамі і прызначэннем розных траў, збіранне якіх нікому не давярае.

— Раней не ведалі ніякай "хіміі". Нават і пасля вось пасьюль (паказвае крыху вышэй за калена — аўт.) не абразалі. Трэба было толькі патрэбны збор траў ведаць, а прырода сваю справу рабіла, — лічыць гаспадыня фіта-бара.

— Пра што марыце? — задала я апошняе пытанне, калі ішлі ў майстэрню, дзе шмат скрыняў і мяхоў рознай травы, а ля акна стаіць стол з фарбамі.



**Ала Стасюлевіч. Нарадзілася 12 студзеня 1935 года ў вёсцы Яцкава (Валожынскі раён). Скончыла сярэднюю школу. Паступіла ў Мінскае мастацкае вучылішча, але праз год кінула вучобу. У Валожыне скончыла курсы "Чырвонага Крыжа і Паўмесяца". З 1972 года працавала медсястрой туберкулёзнага аддзялення райбальніцы. 1974-1992 — медсястра кабінета псіхіятра раённай паліклінікі. З 1992 года — медсястра фіта-бара. Ёсць дачка Марына і ўнук Саша.**

Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

— Каб былі цынкавыя былі. Без іх ніяк не абыдзешся. А калі б атрымала шмат грошай, купіла б машыну — і ў лес за каранямі і травамі.

Хочацца зрабіць фіта-бар для ўсяго горада і раёна, каб быў лепшы сярод усіх краін.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Аддзяленне ператвараецца ў цэнтр

**СМАРГОНЬ. Раённае аддзяленне сацыяльнай дапамогі на даму ператворыцца ў Цэнтр. Калі гэта будзе, работнікі аддзялення дакладна не ведаюць. Гавораць, што, хутчэй за ўсё, сёлета. Розніца ў тым, што Цэнтр будзе абслугоўваць не толькі пенсіянераў, але і ўсіх жадаючых.**

Цэнтр размесціцца ў асобным будынку. Як кажуць супрацоўнікі аддзялення, яны пераедуць толькі са сваімі напрацоўкамі, досведам, сталамі ды крэсламі. Усё астатняе ім давядзецца здабываць самім. У аддзяленні сацдапамогі працуе 85 чалавек. Сярэдняя заработная плата – 70 тысяч рублёў. Прыкладна 7 чалавек возьмуць у штат, калі пераедуць на новае месца. Бо ў Цэнтры будуць аказваць дапамогу ўсім гараджанам па розных пытаннях. Адкрыецца 4 аддзяленні: першаснага прыёму і інфармацыі; сацыяльнай дапамогі на даму; тэрміновага сацыяльна-эканамічнага абслугоўвання; медыка-псіхалагічнай дапамогі.

Супрацоўнікі наладзілі добрыя стасункі з Каўнаскім цэнтрам пажылых жанчын. З якім і абменьваюцца досведам, напрацоўкамі.

Загадчыца аддзялення сацыяльнай дапамогі на даму Людміла Шасцеракова:

– Мы не вельмі гатовыя да перамен. Трэба вучыцца многаму. Але гэта ў ходзе работы. Метады нашыя застарэлыя. Трэба пераходзіць на платнае абслугоўванне. Яно абыдзецца чалавеку ад 1 да 10 тысяч рублёў у месяц. Ёсць скідка ў 50% для малазабяспечаных, адзінокіх і тых, хто жыве адзін. Цяпер на такім абслугоўванні 1 чалавек, яшчэ 1 – на платным, на бясплатным – 759. Бясплатна абслугоўваюцца адзінокія, даход якіх не перавышае 72 тысяч рублёў у месяц.

Найчасцей просяць нарыхтаваць дроў, прынесці вады (20 хвілін – 204 рублі), заплаціць за камунальныя паслугі (40 хвілін – 408 рублёў), памыць падлогу (1 м² – 31 рубель), прынесці лекавыя сродкі, прыбраць ванны пакой і туалет з чысткай ракавіны і унітаза, памыць бялізну і адзенне ўручную (60 хвілін – 612 рублёў), у пральнай машыне (40 хвілін – 40 рублёў), выкупаць, абстрыгчы пазногці, выканаць іншыя гігіенічныя і медыцынскія паслугі (30 хвілін – 306 рублёў).

Людміла Шасцеракова:

– Многія крыўдзяцца, што ім прапануюць платнае абслугоўванне. Старыя думаюць, што яны адпрацавалі сваё і ім цяпер усе нешта павінны даць, зрабіць. Я ж лічу, калі чалавек адзінокі і бедны, то яго павінны абслугоўваць бясплатна. Відаць, з намі застануцца толькі тыя, хто ніяк не можа абысціся без дапамогі сацработніка.

**Ірына РАБУШКА.**



Фота IREX/ProMedia.

**За паслугі сацыяльнага работніка пажылыя людзі пакуль не плацяць. Але не выключана, што плаціць старым давядзецца і за гэта.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 8 мая | 16 мая |
|---|---|---|
| Долар | 1740,00 руб. | **1774,00** руб. |
| ЕЎРА | 1589,40 руб. | **1572,50** руб. |
| Злоты | 439,87 руб. | **428,69** руб. |
| Літ | 460,15 руб. | **455,60** руб. |
| Расійскі рубель | 55,78 руб. | **55,75** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1750 – 1770 руб. | **1760 – 1790** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 8.05 | 16.05 |
|---|---|---|
| **Курыныя кумпячкі**, 1 кг | 2600 | **2600** |
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 8800-12100 | **9100-13150** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 2100-4900 | **2100-4800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2660 | **2300** |
| **Рыс**, 1 кг | 640-920 | **650-920** |
| **Грэчка**, 1 кг | 520-580 | **510-580** |
| **Цукар**, 1 кг | 735-740 | **740** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 880-980 | **770-980** |
| **Алей**, 1 л | 1500-1950 | **1400-1950** |
| **Маянэз**, 200 г | 360-570 | **330-420** |
| **Кава “Пеле”**, 100 г | 1900 | **1900** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 550-600 | **600-650** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 600 | **600-650** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 900 | **950-1200** |
| **Капуста**, 1 кг | 1500-2500 | **1300-2500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1500-1700 | **1700-1800** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1550-1700 | **1550-1700** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Смятана**, 1 л | 1400-1800 | **1200-1700** |
| **Масла**, 1 кг | 3500-3600 | **3400-3500** |
| **Тварог**, 1 кг | 1300-1800 | **1600** |
| **Малако**, 1,5 л | 500-600 | **500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1200-1300 | **1400** |
| **Бульба**, 1 вядро | 2400-2700 | **2400-2800** |
| **Морква**, 1 кг | 800-900 | **200-900** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 350-750 | **500-950** |

■ **ПРАЦОЎНАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА**

# Абавязкі наймальнікаў пры прыёме на работу

Яны рэгулююцца артыкулам 54 Працоўнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь (ПК РБ). Пры прыёме на работу наймальнік абавязаны патрабаваць, а работнік павінен прад'явіць:

1. Пашпарт;
2. Для ваеннаабавязаных асоб і іншых, якія належаць прызыву на ваенную службу, дакументы воінскага ўліку;
3. Працоўную кніжку, за выключэннем асоб, якія ўпершыню паступаюць на работу, і сумяшчальнікаў;
4. Дыплом ці іншы дакумент аб адукацыі і прафесійнай падрыхтоўцы, які пацвярджае права на выкананне дадзенай работы;
5. Накіраванне службы занятасці, калі асоба накіроўваецца ў лік брані для асобных катэгорый работнікаў;
6. Заключэнне аб стане здароўя для інвалідаў;
7. Дэкларацыю аб даходах і маёмасці, страхавое, медыцынскае заключэнне аб стане здароўя і іншыя дакументы, якія маюць дачыненне да работы, калі іх прад'яўленне прадугледжанае заканадаўчымі актамі.

Прымаць на работу без гэтых дакументаў наймальнік не мае права. Яму таксама забараняецца патрабаваць іншыя дакументы.

Таксама наймальнік абавязаны азнаёміць работніка пад роспіс з даручанай работай, умовамі і аплатай працы, патлумачыць яго правы і абавязкі, устаноўленыя калектыўным дагаворам, правіламі ўнутранага працоўнага распарадку і іншымі лакальнымі нарматыўнымі актамі. У сувязі з тым, што, згодна з артыкулам 365 ПК РБ, дзеянне калектыўнага дагавора распаўсюджваецца на ўсіх работнікаў, неабходна атрымаць згоду на распаўсюджванне на іх дзеяння калектыўнага дагавора ці атрымаць адмаўленне ў пісьмовай форме.

Згодна з артыкулам 18 ПК РБ, з работнікамі неабходна заключыць з захаваннем патрабаванняў артыкула 19 ПК РБ працоўны дагавор у пісьмовай форме у двух экземплярах, адзін з якіх перадаецца работніку, другі захоўваецца ў наймальніка.

Наймальнік у абавязковым парадку абавязаны правесці уводны інструктаж па ахове працы ў адпаведнасці з Тыпавым палажэнні аб навучанні, інструктажы і праверцы ведаў работнікаў па пытаннях ахоўы працы, якія зацверджаныя пастановай Міністэрства працы 29.08.1996 г. №82.

Акрамя заключэння дагавора, у пісьмовай форме прыём на работу неабходна аформіць загадам, які згодна з артыкулам 25 ПК РБ аб'яўляецца работніку пад роспіс.

І, нарэшце, наймальнік абавязаны ў пяцідзённы тэрмін з дня прыёму на работу ў адпаведнасці з Інструкцыяй аб парадку вядзення працоўных кніжак работнікаў, якая зацверджаная пастановай Міністэрства працы №72 ад 11.05.2000 г., запоўніць працоўную кніжку на работніка. А для асоб, якія ўпершыню паступілі на работу, – запоўніць працоўную кніжку не пазней за тыдзень з дня прыёму на работу.

**Святлана АДАМОВІЧ, вядучы дзяржінспектар працы.**

■ **ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ**

# Прамога рэйса не будзе

**МАЛАДЗЕЧНА. Марыя Салагуб пытаецца, ці будзе прамы маршрут з Маладзечна ў Мядзел.**

Адказвае дырэктар аўтапарка №4 **Пётр Мамчыц**:

– Не будзе. Калі на аўтавакзале набярэцца чалавек 30 і больш, тады пусцім на Мядзел дадатковы аўтобус. Але толькі па выхадных. Раней такі маршрут быў, але туды везлі 10 чалавек, а назад – нікога.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ **КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА**

# Падпаліў сябе

**ВІЛЕЙКА. На мінулым тыдні спаліў сябе 40-гадовы жыхар Любані. Ён абліў сябе бензінам з трактара і падпаліў адзенне. Гэта было ў лесе.**

Мужчына быў на ўліку ў псіханеўролага і раней прадпрымаў спробы самагубства.

**Наталля МІХАЙЛАВА.**

■ **ЭКАНОМІКА**

# Цэны на нафту вызначае палітыка

У свеце працягваюць расці цэны на нафту. «Чорнае золата» пачало даражэць пасля заяваў міністраў нафты арабскіх краінаў OPEC у Каіры пра захаванне квотаў на здабычу сыравіны ў другім паўгоддзі з улікам таго, што эксперты прагназуюць павелічэнне попыту на паліва. Згодна з гэтымі прагнозамі, сусветная патрэба ў нафце ў трэцім квартале «падрасце» да 76,6 барэляў у суткі.

**Як паведамляе Радыё Рацыя**, недахоп нафты ў свеце стаўся ў выніку канфлікту на Блізкім Усходзе: Ірак цэлы месяц адмаўляўся прадаваць «чорнае золата» за мяжу - у знак пратэсту супраць уваходу Ізраіля на палесцінскія тэрыторыі.

Як і прадбачылася раней, далейшая эскалацыя араба-ізраільскага канфлікту правакуе рэзкі рост коштаў. Пасля цалкам магчымае ўтрыманне коштаў на высокім узроўні, што, у сваю чаргу, затармозіць развіццё кан'юнктуры. Разам з тым, аналітыкі пакуль раяць «захоўваць спакой і чакаць». Канфлікт паміж Ізраілем і Палесцінай не дазваляе даць канкрэтнага прагнозу развіцця падзеяў на фінансавых рынках.

Чарговы віток канфрантацыі штораз прыводзіць да падзення курсаў акцыяў, а кожная спроба пасрэдніцтва ва ўрэгуляванні сітуацыі дорыць біржавікам надзею. Гэтак, пасля таго, як у пачатку месяца Буш затрабаваў ад Ізраіля пакінуць акупаваныя тэрыторыі, цана на нафту трохі паніжэла. Але адмысловцы нават пры эскалацыі канфлікту не прадбачаць катастрофы, хоць рост коштаў на нафту створыць пэўныя праблемы.

Самае змрочнае прадказанне: далейшая нарастанне канфлікту прывядзе да падвышэння коштаў на нафту да 30 долараў за барэль. Гэта можа паслужыць штуршком да павышэння працэнтных ставак. Адначасова высокія цэны на нафту адмоўна адаб'юцца на пакупніцкай здольнасці насельніцтва.

Міжнародная энэргетычная агенцыя выступіла з папярэджаннем: у выпадку далейшага зніжэння запасаў нафты ў развітых краінах сусветная эканоміка можа сутыкнуцца з сітуацыяй 1999 г., калі цэны на нафту перавысілі 35 долараў за барэль. Тады зніжэнню запасаў паспрыяла 30-дзённае эмбарга, абвешчанае Іракам, а таксама звычайны рост попыту на бензін.

Многія міністры краінаў OPEC мяркуюць, што для павелічэння квотаў на здабычу нафты падставаў няма. Гэтак, на думку міністра нафтавай прамысловасці Катара Абдула бін Хамад аль-Ацціях, высокія цэны на нафту цяпер абумоўленыя палітычнымі фактарамі, а таксама спекулятыўнай гульнёй на рынку.

Рада Бяспекі ААН у аўторак аднадушна пагадзілася на самы грунтоўны перагляд санкцыяў супраць Ірака за апошнія 12 год і нацэлілася на павелічэнне «грамадзянскага імпарту» тавараў для жыхароў Ірака. Але забарона на ваенныя пастаўкі засталася ў сіле. Як сказаў іракскі дыпламат Махамэд Алдоры ў інтэрв'ю Reuters, Ірак бачыць у гэтым «новыя амерыканскія палітычныя мэты». Гэта, на ягоную думку, новыя пераследы іракскага народу. Невядома, ці пагодзіцца Ірак працягваць пастаўкі нафты ў межах праграмы ААН - прыкладна 2 мільёны барэляў штодня...

# Памідоры ў адкрытым грунце (пад плёнкай)

## Чым адрозніваецца вырошчванне памідораў у адкрытым грунце ад вырошчвання іх на падваконні і балконе?

У адкрытым грунце (нават і пад плёнкай) стварыць аптымальныя ўмовы для роста і плоданашэння памідораў значна цяжэй, чым на падваконні і балконе. Таму і сарты і догляд за раслінамі тут крыху іншыя.

У адкрытым грунце пераважна вырошчваюць сарты Белы наліў, Вяліна, Даходны, Калінка, Ружа, Раніца, Перамога 165, Слава Малдавіі (з карычневымі пладамі) і тыя, што на балконе. Падбіраць сарты цяпер позна. Калі ж купляеце, то можна і выбраць і сарты.

### У якім месцы агарода размяшчаць памідоры?

Для памідораў выбіраюць самае сонечнае месца, захаванае лесам ці іншай расліннасцю ад халодных паўночных і паўднёва-усходніх вятроў. Каб зменшыць захворванне раслін фітафторай, нельга саджаць іх пасля бульбы, баклажанаў, фізалісу, перцу.

Лехі пад памідоры рыхтуюць за 5-6 дзён да высадкі расады. Калі ваша плёначная цяпліца высокая, і ў яе заходзіце не згінаючыся, то можна сфармаваць 2 лехі вышынёй 30-35, шырынёй 80-85 і праход пакінуць 60-75 см. Некаторыя агароднікі ў такіх цяпліцах робяць і 3 лехі, змяншаючы іх шырыню да 80 і праходы да 60 см.

Найбольш утульна адчуваюць сябе памідоры, калі іх рады маюць кірунак з поўдня на поўнач. Значыць, такі трэба выбіраць кірунак і лехам.

Сфармаваныя лехі паліваюць медным купарвасам або хлорвокісам медзі (1 ст. лыжка на 10 л вады). Расходуюць на 1 м² лехі 1-1,5 л рабочага раствору. Уносяць яго апрыскавльнікам або распырскваюць звычайным хатнім венікам.

Пасля гэтага на 1 м² лехі ўносяць вядро перагною, да яго дадаюць 2 ст. лыжкі суперфасфату, 1 ст. лыжку сульфату калію, або 2 шклянкі драўніннага попелу. Калі няма перагною, то ўносяць чысты ад пустазельнага насення, добра перапрэлы нізінны торф. Угноеныя лехі перакопваюць на глыбіню 25-30 см.

### Высадка расады

У дзень высадкі расады лехі паліваюць гарачым растворам (80-90°) марганцоўкі з разліку 3-4 л на 1 м², потым маркеруюць уздоўж і ўпоперак. Для сярэднеспелых сартоў міжрадоўі ўстанаўліваюць у 60 см, а адлегласць паміж раслінамі ў радку – 50 см. Для нізкарослых штамбавых сартоў – адпаведна 50 і 30 см. Прадольныя рады размяшчаюць на адлегласці 10-15 см ад краю лехі.

Некаторыя агароднікі прымяняюць і зрэзку 2-3 сапраўдных ніжніх лістоў у кожнай расліны, пакідаючы 1,5-2 см пянькі, за 2-3 дні да высадкі расады на пастаяннае месца. Пакінутыя пянькі засыхаюць і не шкодзяць галоўнаму сцяблу. Выдаленне ніжніх лістоў паляпшае праветрыванне раслін, умацоўвае іх стойкасць да хвароб і садзейнічае лепшаму развіццю першай кветкавай гронкі. За суткі да высадкі расаду добра паліваюць. Высаджваюць расаду у пахмурныя дні раніцай, а ў сонечныя – у другой палове дня, каб расліны добра акрэплі і лёгка перанеслі першы сонечны дзень. Сёлета найбольш спрыяльнымі для высадкі памідорнай расады днямі ў маі будуць 16, 17; 22–25 чысла. Каля кожнай лункі ўбіваюць у зямлю калочак вышынёй 80 см. Расаду саджаюць вертыкальна крыху глыбей, чым яна расла ў расадніку. Сцябло не засыпаюць глебай. Толькі праз 2 тыдні, калі расліны прыжывуцца, іх акучваюць зямлёй да вышыні 10-12 см.


Фота IREX/ProMedia.

Пачатак мая паміж Маладзечнам і Смаргонню ў Турэц-Баярах.

### Паліванне

Пасля пасадкі, пакуль расліны не прыжывуцца (8-10 дзён), іх не паліваюць. Акрэплыя расліны першы раз паліваюць багата (да 20 л на 1 м²), а потым удвая меншай дозай. Пры сонечным надвор'і паліваюць расліны вечарам, а пры пахмурным – у першай палове дня. У першым выпадку паліванне паўтараюць праз 3-4, а ў другім – праз 5-6 дзён у залежнасці ад тэмпературы паветра. Палітыя лункі прысыпаюць прасеяным торфам або кампостам слоем 1-2 см, каб зберагчы ваду ад выпарвання. Асабліва гэта карысна ў перыяд цвіцення. Аднак лішак вады каля каранёў пры недахопе цяпла прыводзіць да іх адмірання. Таму патрэбнасць у паліве вызначаюць па знешнім выглядзе раслін. У гарачыя дні норму вады для паліву раздзяляюць на тры часткі і падліваюць яе да каранёў праз пэўныя інтэрвалы.

Калі глеба на ўчастку вільготная і часта ідзе дождж, то палівы не праводзяць, за выключэннем унясення вадкага раствору ўгнаенняў, а пры магчымасці і ўгнаенні ўносяць у сухім выглядзе.

Пры сухой глебе, высокай вільготнасці паветра і паніжанай тэмпературы кветкі ў памідораў асыпаюцца. Каб спыніць гэта, расліны апырскваюць растворам борнай кіслаты (1 чайная лыжка на 10 л вады). Расходуюць 1 л такога раствору на 4-5 раслін.

### Падкормкі

Прыкладна праз 20 дзён пасля высадкі расады памідоры падкормліваюць арганічнымі ўгнаеннямі сумесна з мінеральнымі або толькі мінеральнымі. У першым выпадку на вядро вады (10 л) бяруць паўлітра разбаўленых (1:10) курынага памёту або каравяку і 1 шклянку двайнога суперфасфату, або 1 ст. лыжку нітрафоскі, у другім выпадку ў 10 л вады распускаюць 50 г аміячнай салетры, 200-300 г суперфасфату і 100 г хлорыстага калію. Ва ўсіх выпадках раствор старанна перамешваюць і расходуюць па 0,5 л пад расліну.

Другую падкормку пад карань праводзяць, калі ў раслін пачынае распускацца другая кветкавая гронка. У 10 л вады разводзяць 0,5 л разбаўленага памёту (або 50 г аміячнай салетры), 1 ст. лыжку суперфасфату і 1 чайную лыжку сульфата калію або хлорыстага калію. Расходуюць 1 л раствору на 1 расліну.

Калі ёсць угнаенні і магчымасць часта наведваць участак, праводзяць і трэцюю падкормку ў перыяд распускання трэцяй кветкавай гронкі. Бяруць на вядро вады 1,5 л разведзенага каравяку (1:10) і 1 ст. лыжку нітрафоскі або толькі нітрафоску без каравяку. Расходуюць 0,8-1 л раствору на расліну.

Праз 12-14 дзён пасля трэцяй можна правесці і чацвертую падкормку суперфасфатам з разліку 1 ст. лыжку на 10 л вады, расходуючы 2 л пад расліну.

Каб разведзеныя ўгнаенні лепш пранікалі ў глебу, у міжрадкоўях праколваюць віламі дзіркі на поўную глыбіню зубоў.

Калі расліны маюць мала лісця і марудна растуць, іх апырскваюць растворам мачавіны (1 ст. лыжка на 10 л) або вадкага натрыю (1 ст. лыжка на 10 л) з разліку 5 л таго або іншага раствору на 20 раслін.

Часта памідоры саджаюць на ўчастку, які раней багата ўгнойвалі арганічнымі або мінеральнымі ўгнаеннямі. Тады ў раслін бурна расце і скручваецца лісце, таўсцеюць сцёблы, моцна развіваюцца пасынкі, фарміруюцца слабыя кветкавыя гронкі з невялікай колькасцю пладоў. Павелічэнне масы пладоў замаруджваецца. Каб выправіць такое становішча, неадкладна спыняюць паліў раслін, падкармліваюць іх суперфасфатам (3 ст. лыжкі на 10 л вады, расходуюць па 1 л раствору на расліну). Пры сухім і цёплым надвор'і з 11 да 13 гадзін рукамі злёгку падтрэсваюць, каб палепшыць іх апыленне).

Фарміруюць расліны ў 1, 2 або 3 сцяблы і пасынкуюць па тых жа правілах, што і на балконе.

### Як жа абараніць памідоры ад фітафторы і іншых грыбных хвароб?

Фітафтора, або бурая гніль, – шкодная і небяспечная хвароба памідораў і бульбы. Яна можа за лічаныя дні загубіць увесь ураджай. Узбуджальнік фітафторы – грыб, які зімуе ў паражоных клубнях бульбы і рэштках памідорных раслін. Спачатку ён паражае раннюю бульбу. Пры гэтым на ніжнім лісці бульбоўніку з'яўляюцца мокнучыя карычневыя плямы, акаймаваныя зяленай паласой, а на сцёблах і чаранках лісцяў прадаўгаватыя штрыхі і плямы плошчай 2х10 см. На ніжнім баку паражоных лістоў утвараецца белы налет – міцэлій грыба са спорамі. Налёт добра бачны раніцай, пакуль не высахне раса, і ў вільготнае надвор'е.

Чарнеюць і высыхаюць кветканосы, кветканожкі і чашалісцікі. З хворых раслін ранняй бульбы або леташніх астаткаў інфекцыя з дапамогай ветру і дажджу пераносіцца і на памідоры.

У памідораў фітафторай паражаюцца пераважна плады, а лісце і сцёблы толькі ў асобныя гады і не на ўсіх сартах. Прыкметы хваробы на лістах тыя ж, што і на бульбяных.

На пладах памідораў, паражоных фітафторай, з'яўляюцца бурыя расплыўчатыя падскураныя плямы, якія хутка павялічваюцца і ахопліваюць увесь плод. Спачатку плод робіцца цвёрдым, а потым размякчаецца. У вільготнае надвор'е на ім з'яўляецца белы налет. Найбольш моцна праяўляецца хвароба ў перыяд утварэння пладоў і ў перыяд іх выспявання.

Калі вы заўважылі першыя прыкметы хваробы на бульбе, неадкладна апырскайце гэтую бульбу і яшчэ здаровыя памідоры хлорвокісам медзі. Бяруць 40 г прэпарату і расходуюць 1 л рабочага раствору на 100 раслін. Калі лета халоднае і дажджлівае, то праводзяць 3-4 апрацоўкі гэтым прэпаратам праз кожныя 10-12 дзён. Заканчваюць апрацоўку не пазней, чым за 20 дзён да ўборкі пладоў.

У час паспявання пладоў памідоры бясшкодна можна апрацаваць 1%-й бардоскай сумессю (100 г меднага купарвасу і 100 г нягашанай вапны на 10 л вады). У гэтым выпадку плады можна збіраць не раней чым праз 7 дзён пасля апрыскквання. Перад выкарыстаннем у ежу іх старанна мыюць. Выкарыстоўваюць і прэпарат азафос і Аксіхом па 20 г на 10 л вады.

Калі на ўчастку з памідорамі не расце блізка бульба, то праз 20 дзён пасля высадкі памідорнай расады на пастаяннае месца яе апрыскваюць (вечарам) растворам марганцоўкі (1,5 г на 10 л вады), поўнасцю змочваюць лісце. Праз 12 дзён пасля гэтай апрацоўкі праводзяць апрацоўку памідораў хлорвокісам медзі (1 ст. лыжка на 10 л вады + 1 чайная лыжка вадкага мыла). Наступную апрацоўку праводзяць, калі зацвітае трэцяя гронка. Бяруць на 10 л цёплай (25°С) вады адну шклянку прапушчанага праз мясарубку часнаку і 1 грам марганцоўкі. Настойваюць суткі, затым апрыскваюць расліны. Расходуюць 200-250 г раствору на 1 куст.

Калі няма прэпаратаў і баіцеся іх прымяняць, то можна апырскваць памідоры толькі настоем часнаку. 3-5 разоў за вегетацыю, пачынаючы з моманту ўтварэння пладоў на другой гронцы.

Пры адсутнасці ўсіх прэпаратаў і нават часнаку неадкладную дапамогу памідорам можна аказаць і апрацоўкай пладоў, што завязаліся, 10%-м растворам харчовай солі. У выніку на пладах утвараецца ахоўная плёнка, якая перашкаджае пранікненню ў плод інфекцыі грыба.

Хворыя плады выдаляюць з участка і глыбока закопваюць або апальваюць, але не закладваюць у кампост. Нельга пакідаць на ўчастку і рэшткі бульбы і памідораў, таму што і яны могуць быць крыніцай інфекцыі, асабліва ў дажджлівае надвор'е.

Калі лета сухое і цёплае, то лісты, сцёблы і плады памідораў паражае??? і іншая небяспечная хвароба – альтэрнарыёз? (раняя сухая плямістасць, чорная плямістасць). На хворых месцах з'яўляюцца цёмныя канцэнтрычныя плямы з кругамі ў выглядзе мішэні, пакрытыя буравата налётам мікраскапічнага грыбка. Сродкі аховы тыя ж, што і ад фітафторы.

Для прафілактыкі супраць хвароб памідоры апырскваюць настоямі і адварамі шалупіння цыбулі, кветак чаромхі, экстракту лісця бярозы, таполі чорнай (10-15%). Але робяць гэта да з'яўлення прыкмет хваробы на раслінах памідораў.

### Уборка

Памідоры трэба зняць з куста, пакуль тэмпература паветра ноччу ўтрымліваецца вышэй за 5-8° цяпла. Плады, якія перанеслі больш нізкую тэмпературу, як правіла, пры даспяванні загніваюць. Плады з хворых раслін неабходна збіраць асобна, а перад закладкай на даспяванне прагрэць у гарачай вадзе (60°С) на працягу 2 хвілін, што засцерагае іх ад загнівання.

**Альбін МАКАРЭВІЧ,**
**аграном.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Шапіра ўзяў рэванш у Румбуціса

**Тарпеда (Жодзіна) – Маладзечна-2000 2:0 (1:0).**

14 мая. 4500 гледачоў. Поле – 4. Кошт білета – 1000 рублёў.

Суддзя – В. Жук

**Макрыцкі (Міхалёў, 59) Рапецкі**
**Сідарэнка**
**Тартоўскі Мігас (Акуліч, 59)**
**Сарасек**
**Дарахові́ч**
**Муравейнікаў**
**Азаронак (Сысой, 10) Бычкоўскі**
**Сцепановіч (кап.)**

Запасныя: Рубацкі, Смірноў.

Галы: Малееў (33), Саакян (57)

Папярэджанні: Малееў (53); Сідарэнка (28), Дарахові́ч (49), Акуліч (69).

Лепшы па версіі "РГ" – Сцепановіч.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**ФК «Маладзечна-2000» не можа выйграць чатыры матчы запар. Галоўнаму трэнеру Людасу Румбуцісу ёсць над чым падумаць.**

### Склад на матч

Мінулая гульня са "Славіяй" толькі дадала праблем **Людасу Румбуцісу**. Шмат футбалістаў атрымалі пашкоджанні, і толькі перад самай сустрэчай прыступілі да трэніровак. У спісе адзінаццаці першых у параўнанні з матчам тыднёвай даўніны было два змяненні: **Азаронак** выздаравеў і заняў месца траўміраванага **Дразда**, а **Рапецкі** замяніў інертнага **Акуліча**.

### Адразу замены

Не паспелі гульцы разбегацца, як давялося з абодвух бакоў рабіць замены. Цяжкую траўму атрымаў ужо на другой хвіліне сустрэчы паўабаронца гаспадароў **Дарашкевіч**, і яго забрала машына "хуткай дапамогі". А потым і замест Азаронка ў гульню ўступіў **Сысой**.

### Ёсць такое слова "воз"

Маладзечанцаў "вазілі" амаль цэлы першы тайм, прычым, не толькі жодзінцы, але і галоўны суддзя матча **Вадзім Жук**. Склалася такое ўражанне, што маладзечанцы за першы тайм парушалі правілы больш, чым за ўвесь гэты сезон разам узятыя. А суддзя свісцеў да таго часу, пакуль на табло не стала 2:0 на карысць гаспадароў. Усярэдзіне тайма **Шаўчык** проста выдатна на левым фланзе разабраўся з абаронцам і аддаў пас набягаючаму **Малееву**. Той стрэліў адразу і трапіў у штангу, якая пераадрасавала мяч у вароты. Перавага заставалася на баку "Тарпеда".

### Барысік і Сцепановіч – героі тайма

Другая палова матча выдалася больш цікавай. Пасля гола жодзінцаў у бой Людас Румбуціс кінуў Міхалёва і Акуліча, што ў пэўнай ступені прынесла свае плады. А ў перапынках паміж напружанай барацьбой за тое, каму дастанецца мяч у цэнтры поля і хто яго хутчэй згубіць, гледачоў весяліў **Аляксандр Барысік**. Некалькі выхадаў адзін на адзін са Сцепановічам так і не прынеслі поспеху нефартовапаму нападаючаму. А Віталь цягнуў усё, што ляцела ў вароты. Вось толькі ўдар **Саакяна** на дабіванні, як аказалася, паставіў кропку забітым галам вечарам у аўторак.

### Румбуціс – Шапіра

Ці "Маладзечна" – "Тарпеда". Два гады назад "Маладзечна" выйшла ў вышэйшую лігу і пакінула за бортам "Лунінец", якім тады кіраваў Якаў Шапіра. Да 14 мая жодзінцы гулялі з маладзечанцамі тры разы і тры матчы прайгралі. Шапіра і "Тарпеда" цяпер бралі рэванш. Віншуем з перамогай!

### Пасляматчавыя каментары

Якаў Шапіра, галоўны трэнер "Тарпеда":

– Вельмі шкада, што Дарашкевіч атрымаў пашкоджанне. "Маладзечна-2000" нас здзівіла сёння ў тактычным плане, мы не маглі падумаць, што пачнуць накрываць нас у сярэдзіне поля. Шмат момантаў не рэалізавалі, і гэта не праблема, бо усё забіць немагчыма. Перамога засталася за намі, што галоўнае. На сваім добрым узроўні адпрацавалі **Шуманскі і Зяневіч**, дарэчы, гэтыя абаронцы адныя з лепшых цяпер у чэмпіянаце.

**– Хто падабаўся ў складах абедзвюх каманд?**

– У гасцей адзначу Людаса Румбуціса, які граматна пабудаваў гульню сваіх падначаленых. У маёй камандзе сёння гулялі ўсе прыкладна аднолькава. Але **Шаўчык і Малееў** яшчэ крыху лепш.

Людас Румбуціс, галоўны трэнер "Маладзечна-2000":

– Не было гульні з боку маёй каманды. Нават не ведаю, як толькі прапускаем гол, пачынаем і атакаваць, і нешта атрымліваецца ў арганізацыі гульні. Ёсць праблемы са складам, нічога не атрымлівалася сёння ў атацы. Словам, такія гульні лепш хутчэй забыцца.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ**
**з Жодзіна,**
**спецыяльна для "РГ".**

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

## Шаблінскі – тайная зброя

**12.05 Смаргонь – Асіповічы 3:0 (0:0).**

Галы: Шаблінскі (66, 72, 84).

Склад: Шляхавой, Іваноў, Байда, Курак, Давідовіч, Шэўчык, Дукса, Селіванаў (Стэльмах, 46), Кошаль (Ваўчок, 71), Шамшорык, Шпакоўскі (Шаблінскі, 62).

Першы тайм даўся смаргонцам даволі цяжка. Сапернік хаця і рыхтаваўся да чэмпіянату ўсяго тыдзень ці два, затое ў яго складзе шмат дасведчаных футбалістаў. Магчыма, недахоп функцыянальнай падрыхтоўкі адбіўся на дзеяннях асіповічцаў напрыканцы матча, а яшчэ вельмі паўплываў на зыход гульні Шаблінскі, які выйшаў на замену. На жаль, на 82-й хвіліне складаную траўму – пералом рукі са змяшчэннем – атрымаў Ваўчок.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ГАРАДКІ

## Чэмпіянат краіны сярод клубаў

Упершыню на Беларусі стартаваў нацыяльны клубны чэмпіянат. Дарэчы, падобных не было ні ў Расіі, ні на Украіне. Бярэць удзел 9 каманд. Гэта мінская "БелАвія" і "Аўтасіб", "Нёман" (Бярозаўка), "Лакаматыў" (Орша), "Шахцёр" (Салігорск) ды 4 калектывы з нашага рэгіёна: маладзечанскія МЭС, "Кэмпі", "Юнацтва", красненскі СКА.

Чэмпіянат пройдзе ў два кругі. Другі намечаны на жнівень-кастрычнік, а першы фінішуе ў чэрвені. Круг праходзіць за 4 гульнявыя дні (12 і 19 мая, 2 і 9 чэрвеня), у кожны з якіх каманды праводзяць па 2 матчы, гэта значыць, тройкамі збіраюцца ў трох гарадах. З-за складанага фінансавага становішча прадстаўнікі Бярозаўкі, Оршы, Салігорска папрасілі на першы круг двойчы запланаваць у іх падобныя туры. Яшчэ тройчы будуць туры ў Мінску, двойчы ў Красным і адзін раз у Маладзечне.

Матчы праходзяць з пяці партый па 10 фігур. За перамогу даецца 3 ачкі, за нічыю (2,5:2,5) – 1, за паражэнне – 0.

Заяўкі нашых землякоў.

МЭС: Генадзь Сушко (1977, майстар спорту, капітан), Аляксандр Філістовіч (1960, мс), Дзмітрый Шайко (1979, мс), Ігар Бладыка (1970, мс).

"Кэмпі": Аляксандр Кулак (1960, мс, капітан), Юрый Найлавец (1949, мс), Аляксандр Гарошка (1976, мс), Антон Кулак (1983, кандыдат у майстры спорту), Аляксандр Яршэвіч (1969, мс), Дзмітрый Душкевіч (1978, кмс).

"Юнацтва": Аляксандр Сучко (1938, мс, капітан), Сяргей Сергіевіч (1986, кмс), Уладзімір Пупко (1986, 1 разрад), Аляксандр Кашаль (1985, 2 р/д), Аркадзь Жызнеўскі (1986, 1 р/д), Уладзімір Эгліс (1986, кмс).

СКА: Аляксандр Карповіч (1981, мс, капітан), Аляксандр Кулак (1983, мс), Ільля Чарноў (1980, кмс), Аляксандр Зізюк (1983, мс).

Вынікі першага гульнявога дня.

Орша. Лакаматыў – СКА 1:3, СКА – БелАвія 3:0, Лакаматыў – БелАвія 1,5:3,5.

Салігорск. Шахцёр – Аўтасіб 1:3, Кэмпі – Аўтасіб 3:2, Шахцёр – Кэмпі 2,5:2,5.

Бярозаўка. Нёман – МЭС 1:3, МЭС – Юнацтва 3:1, Нёман – Юнацтва 3:0.

■ ПЛАВАННЕ

# Спартыўны шлях Насці Лях:праплыць 10 тысяч кіламетраў і трапіць на Алімпіяду-2004

Не прайшло і два тыдні па вяртанні з маскоўкага чэмпіянату свету ў 25-метровым басейне, як 18-гадовая маладзечанка Насця Лях ізноў накіравалася ў нацыянальную зборную.

Цяпер ужо рыхтавацца да еўрапейскага першынства ў Берліне ў класічным 50-метровым басейне. Нагадаем, у Маскве яна заняла на дыстанцыях 50 і 200 метраў брасам адпаведна 15-е і 13-е месцы. У складзе камбінаванай эстафеты 4 па100 метраў стала 9-й. Тым самым маладзечанка ўвайшла ў эліту сусветнага плавання.

**– Прымі, калі ласка, віншаванні ад "РГ". Ты трапіла ў зборную краіны, заняла для дэбютанткі выдатныя месцы на чэмпіянаце свету. Раскажы пра сваіх трэнераў. Хто табе дапамагае ў Маладзечне, хто – у зборнай?**

– Афіцыйна трэнерамі запісваюцца **Уладзіслаў Антонаў** і **Людміла Крывецкая**. Антонаў – мой першы трэнер, але ён ужо не працуе са мной гады чатыры. Месяцаў восем я была ў **Арнольда Карава**, а цяпер трэніруюся ў Людмілы Крывецкай. Поспехі прыйшлі пад яе кіраўніцтвам. У зборнай мне дапамагаюць старшы трэнер **Наталля Шаламіцкая**, прэзідэнт федэрацыі **Сяргей Мацвеенка**, доктар **Алена Дамашэвіч**.

**– Што можаш сказаць пра Крывецкую?**

– Людміла Сцяпанаўна добры, чулліві чалавек, разумее мяне.

**– Як шмат трэніруешся? Чаму выбрала менавіта брас?**

– Два заняткі ў дзень па тры гадзіны. Праплываю ў суме па 13-15 кіламетраў. У зборнай трэніроўкі былі нават трохразовыя. Брас мне падабаецца. Прыгожы стыль. Ды і трэнер у ім выступала. Яе рэкорды я ўжо пабіла. З астатніх стыляў люблю "дэльфін"-батэрфляй.

**– Ці бывае вольны час? Раскажы пра сваю сям'ю, пра вучобу.**

– Нядзеля – выхадны. Проста адпачываю. Бацькоў люблю. Бабульку таксама. Ёсць сястра Таня. Ёй 15 год, таксама займаецца плаваннем. Я скончыла маладзечанскую СШ №2, цяпер завочна вучуся на другім курсе акадэміі фізвыхавання.

**– Раскажы крыху пра маскоўскі чэмпіянат. Нейкія ўражанні, атмасфера спаборніцтваў, сустрэчы з "зоркамі". Ці была раней ў замежжы?**

– Не, ні на зборы, ні на спаборніцтвы нікуды не выязджала. Жылі ў Маскве ў гасцініцы "Славянка" ў пакоях на два месцы, харчаваліся за свой кошт. Спаборніцтвы былі ў "Алімпійскім" – прыгожым спартыўным комплексе. А "зоркі" – такія самыя людзі. Магчыма, крыху лепш настройваюцца на барацьбу з сапернікамі і з часам.

**– Лічыцца, што на "кароткай вадзе" выступаць прасцей.**

– У доўгім басейне амаль год не трэніравалася, таму вынікі горшыя. А па "кароткай вадзе" лягчэй плысці, бо часцей адштурхоўваешся.

**– Якія бліжэйшыя важныя старты?**

– 15 мая – летні чэмпіянат краіны ў Наваполацку па "вялікай вадзе". А ў ліпені еўрапейскі чэмпіянат ў Берліне таксама ў басейне на 50 метраў. Трэба адбірацца ў склад зборнай, паказваць секунды майстра спорту міжнароднага класа, гэта значыць, не горш за 32-і вынік у свеце.

**– Для сябе ўнутрана сфармулявала мэту трапіць на Алімпійскія Гульні-2004 ў Афінах? Гэта ж калі праплываць па 15 кіламетраў за дзень, то да Алімпіяды атрымліваецца яшчэ прыкладна 10 тысяч, чвэрць экватара Зямлі.**

– Вынікі будуць расці. Калі на "кароткай вадзе" атрымлівалася, то павінна і на "вялікай" таксама. Натуральна, хочацца выступіць на Алімпіядзе. Але вось так канкрэтна планіраваць нельга. Трэба проста працаваць.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ КУБАК

Вынікі чвэрцьфіналаў: БАТЭ – Хімік 1:1 і 5:0 (матч у адказ прайшоў у Барысаве), Дынама (Бр) – Лакаматыў (Мінск, Д2) 1:0 і 4:1 (у Брэсце), Шахцёр – Славія 0:0 і 1:1 (у Мазыры), Гомель – Дынама (Мн) 1:1 і 1:1 (3:2 па пенальці ў Мінску). Першыя паўфінальныя матчы: Шахцёр – БАТЭ 0:2, Дынама (Б) – Гомель 1:1.

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

СМАРГОНЬ. На рэспубліканскім кросе ў Мінску за смаргонскімі бегунамі засталіся тры другія месцы ў камандных спаборніцтвах: СДЮШАР№1 сярод спартыўных школ, СШ№6 сярод гарадскіх школ, каманда раёна сярод раёнаў.

Рыхтавалі кросменаў **Станіслаў Барташэвіч, Алена Барташэвіч і Аляксандр Капцюх.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ РЭГУЛЯРНЫ ЧЭМПІЯНАТ

**11.05 Забудова – Гомель-2 1:4 (0:0).**

Галы: Канапелька (60); (50), (70), (75), (85).

**13.05 Тарпеда (Жодзіна, дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 2:1 (0:0).**

Галы: (52), (57); Грыхуцік (51).

**ВЫЯЗДНЫЯ МАТЧЫ ФК "МАЛАДЗЕЧНА-2000"**

20 мая ў 14-00 і 17-00 ў кафэ-бары "Тайм-аўт" ля ўвахода на гарадскі стадыён адбудзецца прагляд відэазапісу матча "Тарпеда" (Жодзіна) – Маладзечна-2000.

**На гэтым тыдні гуляюць**

**18.05 Верас (Нясвіж) – Забудова**
+2=1-5 5-8. Летась 0:1 на выездзе і 1:1 (Ваўчок) дома.
**19.05 Тарпеда-Кадзіна – Смаргонь**
**21.05 (дублі) Маладзечна-2000 – Гомель**
+0=0-2 0-5. Летась 0:4 дома і 0:1 на выездзе.
**22.05 Маладзечна-2000 – Гомель**
+3=4-6 7-12. Летась 1:0 (Д. Кабельскі) дома, 0:3 на выездзе і 1:2 (Турчыновіч) у Кубку на выездзе.

# ВІНШАВАНКІ

Дарагая сястрычка **Ірачка**!
От всей души,
С большим волненьем,
Красивых слов не находя,
Мы поздравляем с 60-летием тебя.
Желаем счастья в этот день,
Тепла от всех, кто будет рядом.
Большой душевной красоты
И солнечных лучей в награду.
И не грусти ты о годах,
В любых годах свой вкус и сладость,
Лишь были бы с тобой всегда
Семья, друзья, здоровье, радость.
*Сястра Таня і яе сям'я.*

Дарагая **Хрысціна**!
Віншуем цябе
з днём нараджэння!
Жадаем табе расці здаровай і паслухмянай дзяўчынкай.
*Цёця Галя і Сярожа, г. Маладзечна.*

**Мікалая Мікалаевіча Адамовіча** віншуем з днём нараджэння! Жадаем у здароўі і радасці свой доўгі век пражыць. *Твая сям'я.*

**Святлану Шулякоўскую** віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у вучобе і сустрэць вялікае каханне. *Твае родныя.*

**Людміле Цупе** з 16-годдзем. Дарагая наша, віншуем! Шчасця, здароўя, узаемаразумення, кахання, удачы табе. *Твая сям'я.*

Віншуем з 16-годдзем **Людмілу Цупу**! Шчасця, здароўя, даўгалецця, поспехаў у вучобе, спаўнення жаданняў, узаемнага кахання. *Твае сябры.*

Віншуем з юбілеем **Юрыя Рамановіча**! Жадаем шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту, кахання. *З любоўю, жонка, дачка.*

Дарагая **Люба Сакалова**, віншую цябе з днём нараджэння! Жадаю шчасця, здароўя, кахання і ўсяго найлепшага. *Вінік.*

Дарагі **Маркавіч Сакалоў**, віншую цябе з днём нараджэння! Усяго, усяго табе! *Вінік.*

Даражэнькая **Марыя Будкова**, віншую з днём нараджэння! Жадаю ўсяго найлепшага і, самае галоўнае, мудрасці. *Вінік.*

Віншуем з 18-годдзем любімага сына **Аляксандра Корбута**! Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе, надзейных сяброў. *Мама і тата.*

Віншуем з 30-годдзем **Сяргея Фёдаравіча Сняжко**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, кахання, поспехаў і дабрабыту. *Жонка, дзеці.*

Дарагую мамачку **Ніну Васільеўну Мароз** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, добрага настрою. *Твае дачка, сыны, унукі.*

Сардэчна віншуем з юбілеем **Ніну Іосіфаўну Ляшкевіч**! Жадаем здароўя, шчасця, радасці ў жыцці. Цалуем. *Ніна, Соня.*

## Успомніў

Едучы аднойчы ў перапоўненым аўтобусе, стаў міжвольным слухачом размовы за маёй спінай. Мяркуючы па ўсім, сустрэліся былыя калегі (маладыя людзі гадоў па 30), якія калісці працавалі ў адным аддзеле ці канторы:

– Ну, як ты, яшчэ там застаўся?

– Так, на тым самым месцы.

– А хто яшчэ там застаўся?

– Электроншчык Сяргей, праграміст Павел Васільевіч. Памятаеш іх?

– Ну так, вядома. А ў цябе што новага?

– А памятаеш Леначку, тоненькую такую, з тэхархіва?

– А, такую крыванагую, худую як смерць... Памятаю, памятаю...

– Так, дык я з ёй ажаніўся...

Няёмкае, напружанае маўчанне сябрукоў і смех, які стрымлівае праз сілу аўтобус.

**Лявон ПЯСЧАНЫ.**



Фота IREX / ProMedia

Чаго ў аўтобусе не наслухаешся і не наглядзішся!

# ЗНАЁМСТВЫ

Прыемная жанчына, 44/163/68, пазнаёміцца з прыемным, добрым мужчынам да 44 год, для сур'ёзных адносін. Жыллём забяспечаная. Смаргонь-5, п/п КН 0451248.

Пазнаёмлюся з адзінокім мужчынам 42-52 год для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п МС 0942295.

Інвалід, 33 гады, спакойны, жыллём забяспечаны, не п'е, не курыць. Для стварэння сям'і пазнаёміцца з дзяўчынай. Маладзечна-7, МС 0070802.

Мужчына, 50/170/75, жыллём забяспечаны, для стварэння сям'і пазнаёміцца з жанчынай да 43 год. Маладзечна-6, п/п МС 0367626.

## ■ ІМЯНІНЫ

**17 мая**
**Праваслаўныя**: Пелагеі, Ісака, Кірылы, Клімента, Мікіты, Селівана.
**Каталіцкія**: Веранікі, Брунона.
**18 мая**
**Праваслаўныя**: Пятра, Цімафея.
**Каталіцкія**: Аляксандры, Эрыка, Яна.
**19 мая**
**Праваслаўныя**: Дзяніса.
**Каталіцкія**: Мікалая Пятра.
**20 мая**
**Праваслаўныя**: Антона, Давыда, Зянона, Івана, Іосіфа, Міхаіла, Ніла, Сідара, Сцяпана, Фадзея.
**Каталіцкія**: Базыля, Бернардына.
**21 мая**
**Праваслаўныя**: Івана, Пімена.
**Каталіцкія**: Віктара, Даната, Кароля, Цімафея, Яна.
**22 мая**
**Праваслаўныя**: Ісая, Мікалая.
**Каталіцкія**: Гелены, Рыты, Юліі, Урбана.
**23 мая**
**Праваслаўныя**: Таісіі, Анісіма, Купрыяна, Сімона.
**Каталіцкія**: Івоны, Міхала, Яна.

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

## Купон 20

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)



## Зарабіў

Ехала я аднойчы ў электрычцы з Мінска ў Маладзечна. Звычайны дзень. Углядаюся ў твары пасажыраў – нічога цікавага не знаходжу. Узялася чытаць кнігу.

На момант адарвалася ад гэтага занятку і заўважыла двух маладых мужчын, што паводзілі сябе не зусім звычайна. Яны ўставалі па чарзе і краталі металічную паліцу для сумак. Нібы правяралі на моц.

Стала цікава. Пачынаю назіраць. Мужчыны пра нешта гаварылі напаўголасу, раптам адзін з іх устае і пачынае гучна лічыць: "Раз!", – паставіў нагу на сядзенне. "Два!", – другая нага на спінцы сядзення. "Тры!", – і ён ужо ляжыць на паліцы паміж сумак.

Чую, твар мой перакошваецца ў здзіўленні. Дзяўчынка насупраць таксама азіраецца. Яе твар выцягваецца...

На "Раз, два, тры!" малодшы злазіць з паліцы.

Вырашыла, што ўсе дзівосы скончыліся, зноў пачынаю чытаць кнігу. Але раптам чую нейкі грукат – той самы мужчына ўжо ляжыць на супрацьлеглай паліцы. Здзіўленыя людзі пазіралі на яго знізу. А той спакойным голасам звяртаецца да свайго сябрука: "Я выйграў, з цябе пяць баксаў".

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

## ■ КОНКУРСЫ

### Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя! Мінулае заданне разгадала **Вікторыя Дзягожская** – гэта Джэк-патрашыцель. Віншую яе і запрашаю ў рэдакцыю па білеты ў кіно.

Наступнае заданне: усе ведаюць выраз – сакрэт Палішынеля. А што гэта такое? Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін – 21 мая, 16-00) і прыходзьце па запрашальны білет для двух асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## ■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Чаму ў нас інтэлігенцыю не любяць

У свой час я быў студэнтам геаграфічнага факультэта БДУ. Тэорыю мы вывучалі ў Мінску, а практыку – на геабазе "Заходняя Бярэзіна", што знаходзіцца ў Валожынскім раёне. Вось дзве гісторыі з маім непасрэдным удзелам.

Нашай групе было даведзенае заданне скласці ландшафтную карту пэўнай тэрыторыі. Заданне мы выканалі добра, але заставаўся "белай плямай" адзін участак. І знаходзіўся ён у вёсцы на гаспадарскім агародзе. Усё б нічога, але для вывучэння глебы трэба было выкапаць яму. Па-навуковым – закласці шурф. Рабіць няма чаго, пайшлі да гаспадыні.

Самы смелы студэнт і пытаецца:

– Дзе тут у вас можна шурф закласці?

Сталага веку кабета слова "шурф" пачула ў першы раз. Але па старой беларускай звычцы, мабыць, падумала, што ў гаспадарцы ўсё спатрэбіцца, дык няхай будзе і той шурф. Тым больш, што прапануюць жа яго дарам. Павяла яна нас пад хату і тыцнула пальцам ля самага ганку:

– Вось тут, дзеткі, і складвайце гэты ваш шурф. Толькі роўненька.

А сама пайшла па карову.

Ну, пажаданне гаспадара – закон для госця. Узялі мы рыдлёўкі ды за справу. Пакуль не пачулі істэрычны жаночы лямант:

– Душагубы! За што?!

А ўся справа ў тым, што шурф, адкрыты па ўсіх правілах, вельмі нагадвае магілу. Давялося доўга даказваць жанчыне, што мы ніякія не бандыты, а звычайныя беларускія студэнты.

Праз некаторы час я і мой сябра збіралі матэрыял для сваіх дыпломных праектаў. Справа была на Сакаўшчынскім вадасховішчы. Нас цікавілі тэмпература паветра і вады, атмасферны ціск, сіла ветру, утрыманне кіслароду ў вадзе і іншыя параметры. Усе замеры рабіліся на ўзбярэжжы вадаёма.

Вось аднойчы падыходзіць да нас дзядок, разглядае нашу апаратуру і пытаецца, для чаго ўся гэтая праца. Пагледзелі мы з сябрам, што дзедава хата стаіць ля самай вады, і адначасова падумалі пра адно і тое ж.

– Ды ваду ў вадасховішчы будуць падымаць. Вось мы і робім рэкагнасцыроўку (разведку).

Стары аж падскочыў, пытаецца:

– А ці высока ж сабраліся падымаць?

– Ну, метраў, можа, на шэсць. А можа, і на ўсе дзесяць.

– А хто ж так вырашыў?

– Як хто? Ёсць такая думка, вось і ўсё!

Пастаяў дзядок, пакрактаў, пачухаў патыліцу. Раз ёсць думка, то ўсё, хана! А раз і нейкая рэкагнасцыроўка, дык дакладна хана! З хаты выселяць і агарод затопяць. Але, у рэшце рэшт, усё зразумеў правільна.

– Вы, хлопцы, пачакайце. Я зараз.

І выносіць з хаты бутэлечку чыстай, як сляза, "бакштанкі", хлеб ды кавал сала.

– Вы перадайце гэта таму, у каго ёсць такая думка. Можа, і не будуць нічога падымаць?

Знялі мы з сябрам параметры, запісалі ды супакоілі дзеда:

– Абавязкова перададзім! А ваду падымаць не будуць. Прылады паказалі вельмі кепскую рэкагнасцыроўку.

Усе бакі засталіся задаволеныя. Дзед – што застанецца жыць у сваёй хаце, мы з сябрам – смачнай вячэрай "плюс".

Вось і мяркуйце, шаноўнае спадарства, чаму ж у нас некаторыя інтэлігенцыю не любіць.

**Алег БЯГАНСКІ**

## ■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

### Макаронныя «гняздзечкі»

**8 памідораў, 1 цыбуліна, 3 лыжкі алею, 2 лыжкі таматнай пасты, 1/2 булённага кубіка, соль, 250 г макароны, 1 чэрствая булачка, 400 г мяснога фаршу, 2 яйкі, мускатны арэх, парашок папрыкі, 1 каліва маярану, молаты перац, тлушч для змазвання формы, базілік.**

Памідоры надрэзаць крыж-накрыж, ашпарыць і зняць скурку. Нарэзаць мякаць кубікамі, цыбулю дробна пасячы. Патушыць цыбулю ў алеі, дадаць памідоры, таматную пасту, крыху вады, 1/2 булённага кубіка і тушыць 30 хвілін. Зрабіць пюрэ і прыправіць яго. Варыць макароны на працягу 8-12 хвілін у падсоленай вадзе, адкінуць на друшляк і прамыць халоднай вадой. Размачыць булачку, адціснуць яе. Перамяшаць фарш, яйкі, булачку, дадаць усе прыправы, акрамя базіліка і зрабіць невялікія шарыкі. Змазаць тлушчам форму. Напоўніць яе макаронай. Зрабіць у сярэдзіне ямку і пакласці туды мясныя шарыкі. Паліць соусам. Паставіць форму ў духоўку, нагрэтую да 180 градусаў і запякаць 45 хвілін. Лісцікі базіліку здрабніць і пасыпаць запяканку.

